ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 25(5207)
Чацвер, 1 сакавіка 2001 года

Кошт у розніцу — 49 руб.

На мой погляд

# Лёгкі дэсерт?..

### Як рэальна зрабіць эстэтычнае выхаванне важнейшым фактарам фарміравання творчай асобы?

ГОЛАС у тэлефоннай трубцы быў наступальна-патрабавальны: "Настаўнікі матэматыкі і інфарматыкі аб'ядналіся?" — "Так, — адказваю, — аб'ядналіся". — "А чаму б не згуртавацца выкладчыкам прадметаў эстэтычнага цыкла? Даўно пара!.. У нас жа эстэтычнае выхаванне вядзецца курам на смех! Выраслі і растуць цэлыя пакаленні людзей, якія нічога не разумеюць у мастацтве! Хочам ствараць прадукцыю, канкурэнтаздольную на сусветным рынку?.. Цудоўна! Але ж навука даўным-даўно ўстанавіла, што якасць выпускаемай прадукцыі ў многім залежыць ад эстэтычнага развіцця і таго ж інжынера, і таго ж рабочага. Чаму, скажыце, Японія дала фору ў эканоміцы, лічы, усяму свету?.. Таму што ў школах гэтай краіны выдзяляецца самая вялікая колькасць часу менавіта вучэбным праграмам па прадметах эстэтычнага цыкла! А мы ўсё нацiскаем на матэматыку і інфарматыку"... — "Ну, я не супрацьпастаўляў бы адно другому". — "А я і не агітую за супрацьпастаўленне. Рэфармуемай школе патрэбна новая праграма эстэтычнага выхавання, скіраваная на мэтанакіраванае, паслядоўнае эстэтычнае развіццё дзіцяці на працягу ўсіх гадоў навучання. Такая праграма, рэалізацыя якой вырашыць і праблему другараднасці прадметаў мастацкага і музычнага профілю ў масавай агульнаадукацыйнай школе, і праблему выкладання іх неспецыялістамі, і праблему забеспячэння настаўнікаў неабходнымі дапаможнікамі і раздатачным матэрыялам, і праблему гадзін у вучэбным плане. Без яднання і напорыстасці настаўнікаў літаратуры, музыкі, выяўленчага мастацтва, сусветнай мастацкай культуры, арганізатараў адукацыі і навукоўцаў у вырашэнні ўсіх гэтых праблем сітуацыя з эстэтычным выхаваннем не зменіцца і праз дзесяць гадоў!.."

Калі чалавек гаворыць пра набалелае, думаю я, то эмоцыі яго можна зразумець. Што ж да згуртавання выкладчыкаў прадметаў эстэтычнага цыкла ў грамадскія аб'яднанні, кажу свайму суразмоўцу, то гэта не залежыць ад рэдакцыі газеты. А калектыўнае асэнсаванне вострых пытанняў на газетных старонках — гэта ўжо іншая справа. Абмен меркаваннямі і канкрэтнымі прапановамі, на мой погляд, дасць магчымасць акрэсліць шляхі вырашэння праблем эстэтычнага выхавання.

Прыклад Японіі, на які мы часта спасылаемся, канешне ж, пераканаўча пацвярджае, што развіццё эканомікі ў значнай меры залежыць ад мастацкай, духоўнай і эстэтычнай граматнасці работнікаў вытворчасці. Аднак трэба не проста заклікаць да ўздыму духоўна-эстэтычнай культуры, а вучыць ёй дзяцей з ранніх гадоў — гэта таксама "японскі" ўрок. На нарадах па эстэтычным выхаванні настаўнікі часта цытуюць словы Дзідро пра тое, што магутнасці дасягне тая краіна, дзе музыцы і маляванню вучаць гэтак жа, як чытанню і пісьму. Цытуюць у якасці аргумента, які пацвярджае важнасць прадметаў мастацкага і музычнага профілю. І могуць цытаваць яшчэ многа гадоў, калі пытанні паляпшэння эстэтычнага выхавання ў кожнай канкрэтнай школе не будуць вырашаны станоўча.

А калі яны будуць вырашацца станоўча?

Калі прадметы мастацтва зоймуць па праву першараднае месца ў навучальна-выхаваўчым працэсе як першарадныя ў фарміраванні творчай асобы?

Калі, скажам, выяўленчым мастацтвам і музыкай вучні масавай школы будуць займацца, як мінімум, дзве гадзіны ў тыдзень?

Калі нават у сельскіх малакамплектных школах прадметы эстэтычнага цыкла будуць весці спецыялісты?

Калі дырэктары школ перастануць бачыць у настаўніку выяўленчага мастацтва "бясплатнага" афарміцеля?

Калі настаўнікі будуць мець магчымасць выбраць тую ці іншую праграму альбо ствараць сваю?..

Альбо тады, калі ўрэшце з'явіцца навуковае абгрунтаванне музычна-мастацкай адукацыі на ўсіх ступенях адукацыі — дашкольнай, школьнай, прафесійна-тэхнічнай, сярэдняй спецыяльнай, вышэйшай?..

Пытанняў больш, чым адказаў. Як і больш трывогі, чым надзей. І ўсё ж у лепшае будучае хочацца верыць, праўда?

ДАВАЙЦЕ спачатку паразважаем вось над чым: якія асноўныя задачы вырашае эстэтычнае выхаванне? Будзем загінаць пальцы. Першае: эстэтычная адукацыя, фарміраванне тэарэтычных і каштоўнасных асноў эстэтычнай культуры асобы. Другое: мастацкая адукацыя, фарміраванне мастацкай культуры, каштоўнасных арыентацый і густаў асобы. Трэцяе: эстэтычная і мастацкая самаадукацыя і самавыхаванне, пастаяннае самаўдасканаленне чалавека. Чацвёртае: выхаванне творчых патрэбнасцей і здольнасцей асобы ў пасільным праяўленні сябе ў мастацтве, развіццё эстэтычных адносін да рэчаіснасці. Пятае: выхаванне эстэтыкі маральных паводзін асобы ў грамадскім жыцці і чалавечых узаемінах. Шостае: развіццё агульнага кругагляду, фарміраванне накіраванасці светапогляду і перакананасці.

Што вынікае з гэтых, на мой погляд, асноўных задач? Эстэтычнае выхаванне ахоплівае ўсе сферы нашага жыцця: вучобу, працу, быт, творчасць, мастацтва, спорт, прыроду, пазнанне, навуку, узаеміны, міжнацыянальныя адносіны, а ажыццяўляецца з улікам этнакультурных, этнапсіхалагічных і этнапедагагічных асаблівасцей. Такім чынам, эстэтычнае выхаванне мяркуе паступовае, паслядоўнае і мэтанакіраванае развіццё і фарміраванне эстэтычнай культуры асобы з дашкольнага ўзросту да атрымання прафесійнай адукацыі. Наша рэчаіснасць і сацыяльна-культурныя традыцыі беларускага народа, а таксама людзей з іншымі нацыянальнымі традыцыямі — вось аснова эстэтычнага развіцця асобы. Якую з гэтага можна зрабіць выснову? Эстэтычнае ўзвышэнне чалавека праходзіць некалькі этапаў і павінна мець пэўную накіраванасць. У дашкольным узросце дзіця накоплівае зыходную эстэтычную інфармацыю праз развіццё органаў пачуццяў і фарміраванне навыкаў эстэтычнага ўспрымання і дзейнасці. Менавіта ў раннім дзяцінстве фарміруецца актыўны інтарэс да мастацкай выяўленчай дзейнасці, музыкі, танца, мастацкага слова, а таксама развіваюцца элементарныя навыкі творчай дзейнасці. Гэта той базіс, на якім у школьныя гады адбываецца фарміраванне эстэтычных адносін да з'яў рэчаіснасці і мастацтва, авалодання сістэмай ведаў па асноўных катэгорыях эстэтыкі, шліфоўка ўстойлівых эстэтычных поглядаў і перакананняў, засваенне нацыянальнай мастацкай культуры ў адзінстве з сусветнай у межах праграм прадметаў мастацка-эстэтычнага цыкла з адначасовым набыццём вопыту мастацка-творчай дзейнасці ў розных відах мастацтва. Зразумела, што менавіта ў школьным узросце закладваецца творчы патэнцыял асобы. Развіццё гэтага патэнцыялу ідзе на наступных этапах навучання: прафесійна-тэхнічнага і атрымання вышэйшай адукацыі, калі ўзбагачаюцца ўяўленні пра культурна-эстэтычныя каштоўнасці грамадства, засвойваюцца паняцці аб прыгажосці працы і яе вынікаў, а ўражанні аб мастацтве ўплываюць на творчы падыход да працоўнай дзейнасці; калі фарміруюцца эстэтычныя адносіны да сваёй прафесіі і сістэмы ўнутраных эстэтычных перакананняў і матываў, высокая эстэтычная культура ў цэлым.

Было б вялікай памылкай недаацэньваць ролю сям'і ў эстэтычным выхаванні, а таксама культурных, навуковых арганізацый і сродкаў масавых камунікацый. Разам з сістэмай адукацыі ўсе інстытуты сямейнага і грамадскага выхавання ствараюць (павінны ствараць!) бесперапынны ланцуг паслядоўных эстэтыка-выхаваўчых звёнаў па меры сталення і развіцця асобы. Хачу падкрэсліць гэта, таму што працэсы станаўлення эстэтычнай культуры асобы і грамадства складаныя і шматгранныя, за хібы ў іх нельга абвінавачваць, як гэта нярэдка бывае, толькі школу. Дзе ж, скажыце, як не ў сям'і, найперш фарміруецца эстэтычнае стаўленне да працы, прыроды і да ўзаемаадносін з іншымі людзьмі? Таму, на мой погляд, заслугоўваюць усямернай падтрымкі энтузіясты, якія ствараюць сямейныя клубы для арганізацыі сумеснага правядзення вольнага часу дзецьмі і бацькамі, для сумесных паездак, экскурсій, наведвання тэатраў, выстаў, музеяў, канцэртаў, для гуртковых заняткаў па інтарэсах. Менавіта ў такіх узаемінах бацькоў і дзяцей і фарміруюцца ў многім каштоўнасныя асновы адносін дзяцей да рэчаіснасці, прыроды, да з'яў грамадскага жыцця і саміх сябе.

А што ж можна зрабіць у масавай агульнаадукацыйнай школе — вядучым звяне ўсёй сістэмы мастацка-эстэтычнага выхавання — па паляпшэнні фарміравання цэласнай эстэтычнай культуры асобы вучня?

Перш-наперш давайце паразважаем над сутнасцю эстэтычнай культуры школьніка. У чым яна? Гэта і развітасць пачуццёва-ацэначнай эстэтычнай свядомасці, эстэтычнай патрэбнасці, эстэтычнага густу і ідэала, эстэтычных поглядаў; гэта і ўменне арыентавацца ў разнастайных эстэтычных і мастацкіх каштоўнасцях; гэта ўменні і навыкі ўсвядомленага аналізу мастацкіх і эстэтычных з'яў, матывацыя той ці іншай эстэтычнай ацэнкі; гэта і развітасць вобразнага мыслення як творчага працэсу, якое праяўляецца ў мастацкай, вучэбнай, пазнавальнай, працоўнай, гульневай і грамадска карыснай дзейнасці; гэта, вядома ж, і эстэтычная актыўнасць у духоўных узаемінах з акружаючымі людзьмі, прыродай і мастацтвам. Зразумела, што на ўсіх ступенях сярэдняй агульнаадукацыйнай школы неад'емнай складаемай зместу навучання і выхавання павінны быць літаратура, музыка, выяўленчае і прыкладное мастацтва, харэаграфія, тэатр, кіно, архітэктура. Зразумела, што эстэтычныя аспекты павінны быць і у выкладанні ўсіх школьных вучэбных дысцыплін. Але што мы маем нярэдка ў канкрэтнай практыцы?.. Дыспрапорцыю ў вывучэнні прадметаў гуманітарна-эстэтычнага і прыродазнаўча-матэматычнага цыклаў, адсутнасць стройнай, цэласнай сістэмы эстэтычнага выхавання і пераемнасці ва ўдасканаленні асобы школьніка ў працэсе яе ўзроставага і сацыяльнага развіцця. Ці садзейнічае гэта глыбокаму засваенню дзецьмі эстэтычнай культуры? Пытанне рытарычнае.

А чаму вучыць станоўчы вопыт мастацка-эстэтычнага выхавання, набыты ў многіх не толькі профільных, але і звычайных агульнаадукацыйных школах? Развіццё эстэтычных патрэбнасцей дзяцей вядзецца ад элементарнай у пачатковых да ўстойлівай патрэбнасці ў сярэдніх і старшых класах, да імкнення займацца тым ці іншым відам мастацтва, спасцігаць сутнасць прыгожага і ствараць прыгожае ў акружаючым жыцці. Шляхі і формы эстэтычнай дзейнасці вучняў у такіх школах самыя разнастайныя: гурткі мастацка-эстэтычнай накіраванасці, заняткі спевамі, танцамі, рытмікай, яркія святы з масавым удзелам дзяцей, гутаркі па пэўным плане пра музыку, жывапіс, тэатр, кінамастацтва, выставы выяўленчага і прыкладнога мастацтва, конкурсы на лепшае выкананне народных, сучасных і бальных танцаў, чытанне кніг аб мастацтве, фестывалі мастацкай самадзейнасці, наведаванне тэатраў і кіно з папярэднімі гутаркамі, абмеркаванне прагледжаных спектакляў і фільмаў. Лепшы вопыт эстэтычнага выхавання сведчыць, што ўстойлівая эстэтычная патрэбнасць ператвараецца ў неабходны кампанент духоўнага жыцця выпускнікоў толькі тады, калі ў школе забяспечваецца эстэтызацыя выкладання ўсіх прадметаў, калі на старшай ступені навучання вучні сістэматычна вывучаюць эстэтыку і гісторыю мастацтваў і калі яны займаюцца эстэтычнай дзейнасцю індывідуальна і ў мастацкіх калектывах. Такі выпускнік ведае асновы мастацтва, разумее ідэі мастацкіх твораў, адрознівае сапраўды цудоўнае ад пошлага, вычурнага, у вучобе, паводзінах, побыце і працы выконвае патрабаванні эстэтыкі, развівае свае здольнасці да мастацкай дзейнасці, дапамагае іншым людзям далучацца да прыгожага.

ПЕРАЧЫТАЎ папярэдні сказ і ўздыхнуў: гэта пакуль што ў ідэале. Прызнаемся шчыра: комплексны падыход да вырашэння задач мастацкай адукацыі і маральна-эстэтычнага выхавання застаецца зачастую толькі добрым пажаданнем. І будзе такім, на маю думку, да таго часу, пакуль у педагагічнай свядомасці і ў грамадстве будзе пераважаць погляд на эстэтычную культуру як на лёгкі дэсерт, які падаецца як прыгожая аздоба пры заканчэнні розных семінараў, нарад, пасяджэнняў, пра які ўспамінаюць як пра неабходнасць толькі напярэдадні правядзення розных урачыстасцей і святаў.

Перабольшваю?..

Алег КУЛІЦКІ.

## Паўстагоддзя ў школе



У пасляваенным 19·8 годзе пераступіла парог сельскай школы ў вёсцы Глінішча Хойніцкага раёна, на радзіме народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, маладзенькая настаўніца Мальвіна Яраш. У той час ёй даводзілася быць біёлагам і географам, выкладаць працоўнае навучанне. А заадно з'явілася ідэя стварыць музей, дзе б можна было знаёміць дзятву з гісторыяй іх краю, паказваць прадметы быту сялян, расказваць пра знакамітых землякоў. І такі музей з'явіўся, сёння ён носіць імя Івана Мележа. Мальвіна Якаўлеўна прапрацавала на школьнай ніве роўна палову стагоддзя, пайшла на пенсію, але ўсё роўна цягне да свайго дзецішча.

НА ЗДЫМКУ: Мальвіна Якаўлеўна Яраш за кроснамі, на якіх і сёння можна ткаць палатно.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.

Ліст у рэдакцыю

# Дапамажыце ў бядзе!

Аддзел адукацыі Маладзечанскага выканкама звяртаецца да чытачоў "Настаўніцкай газеты" з просьбай аб дапамозе. У іх калегі, настаўніцы пачатковых класаў сярэдняй школы № 8 Маладзечна Вольгі Юр'еўны Балкоўскай здарылася бяда: цяжка захварэў сын, які ў гэтым годзе павінен быў вучыцца ў падрыхтоўчым класе. Дыягназ — востры лімфабласны лейкоз. Вольга Юр'еўна выхоўвае сына адна. Яе бацькі — пенсіянеры, да таго ж маці таксама цяжка хворая.

Шаноўныя калегі, ваша пасільная дапамога можа выратаваць жыццё маленькага чалавека. Накіроўваць сродкі можна на разліковы рахунак 3622000001122 у ААБ "Беларусбанк", г. Мінск, код 795 УНН — 600395123 (плацёжнае паручыцельства, рэспубліканскі навукова-практычны Цэнтр дзіцячай анкалогіі і гематалогіі, на лячэнне дзіцяці — Балкоўскага Дзмітрыя Анатольевіча).

Саветы і школа

# Практыка, вартая пераймання

*Школьныя сталовыя Дзяржынскага раёна, як правіла, забяспечаны ў неабходнай колькасці гароднінай і бульбай, якія вырашчаны на прышкольных участках ці зароблены вучнямі ў гаспадарках падчас правядзення ўборачных работ.*

А як з малаком, мясам? На Дзяржыншчыне склалася наступная практыка: малаком і мясам школьныя сталовыя забяспечваюцца бясплатна ці адпускаюцца па льготных цэнах.

Дзеля зніжэння кошту абедаў райвыканкам выдаткоўвае на кожнага вучня пэўныя грашовыя сродкі. Гэта Дзяржынскі райвыканкам пачаў практыкаваць адным з першых у Мінскай вобласці.

За якасцю школьнага харчавання сочаць супрацоўнікі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

Наш кар.

Пра што б хацелася сказаць на ІІ з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

# Спецыялісты на "сезонную" работу?

*Ва ўсе часы вучні стваралі своеасаблівы табель аб рангах для школьных прадметаў. Адны былі адназначна важныя і патрэбныя, другія — з сярэдзінкі на палавінку, трэція проста цярпелі іх. Дарчы, прадметы з трэцяй групы з'яўляліся крыніцай выдатных адзнак для найбольш неруплівай часткі вучняў: задавалі мала, пыталіся не вельмі строга...*

Апошнія два гады школьны курс "Чарчэнне" вучні не адносяць нават да вышэйназванай трэцяй групы. Ды і як адносіць адну гадзіну ў тыдзень на працягу паўгоддзя па прадмету далёка не гутарковага жанру? Проста адбылі і забылі. Ці да ведаў і ўменняў тут?.. А ўжо пра кваліфікацыю тых, хто сёння выкладае чарчэнне ў большасці беларускіх школ, і гаварыць, на жаль, не даводзіцца. І ў гэтым няма віны саміх настаўнікаў, як і адміністрацыі школы. Як знайсці спецыяліста на такую "сезонную" работу?

Я разумею, што цяпер — пераходны перыяд, і неўзабаве чарчэнне і прадмет працы аб'яднае новы прадмет пад назвай "Тэхналогія". Але гэта ж у будучыні, няхай і не ў вельмі далёкай. А сёння? І няхай ужо даруюць мне аўтары і прыхільнікі новага прадмета, але я ўжо не першы год не магу для сябе вызначыць, што ж гэта такое — "Тэхналогія"? Ёсць тэхналогія апрацоўкі металаў ціскам, тэхналогія металаў і іншых канструкцыйных матэрыялаў, тэхналогія швейнай вытворчасці, камп'ютэрныя тэхналогіі. А вось што такое тэхналогія ўвогуле? Гэта, напэўна, па класіку: "Мы все учились понемногу, чему-нибудь и как-нибудь". Але ж на календары XXI стагоддзе! У большасці высокаразвітых краін чарчэнню вучаць з дапамогай камп'ютэрнай праграмы "Auto CAD", а мы і ад алоўка гатовы адмовіцца? І гэта ўсё пры тым, што і да алоўка, і да камп'ютэра патрэбны галовы: і настаўніка, і вучня.

Няўжо атрымаецца, што магільная пліта для "Чарчэння" ўжо гатова, засталося толькі напісаць эпітафію?

Але ж любы адукаваны чалавек разумее, што прасторавае ўяўленне неабходна не толькі канструктару ці архітэктару. Яно бывае зусім не лішнім і пры вывучэнні некаторых раздзелаў фізікі, хіміі, стэрэаметрыі. Ды і чыста графічныя навыкі яшчэ нікому не перашкаджалі. Узяць хаця б некаторае паляпшэнне почырку з-за шматгадовай неабходнасці раз у тыдзень пісаць чарцёжным шрыфтам.

У кагосьці можа скласціся ўражанне, што чарчэнне — аснова ўсіх асноў, яго веданне з'яўляецца амаль ці не адзінай умовай вучобы і ў сярэдняй, і ў вышэйшай школе. Але ж любы будынак складаецца з асобных цаглінак. І калі дзе-небудзь на вышыні восьмага паверха дастаць адну з іх — наўрад ці знойдзецца шмат жадаючых мець у такім будынку кватэры.

У мінулым ХХ стагоддзі мы шмат і часта разбуралі: палацы, храмы, чалавечыя лёсы. Дык, можа, хопіць эпітафій. Ода — жанр усё ж такі больш жыццярадасны.

Барыс КУНІН,
намеснік дырэктара па навуцы Ірынінскай гімназіі, настаўнік чарчэння вышэйшай катэгорыі.
Гомель.

Пісьменнік у школе






# Урок высокай паэзіі

***Урок высокай паэзіі нядаўна правёў у Ляхавіцкай гімназіі вядомы паэт Генадзь Бураўкін. Адбыўся ён дзякуючы ініцыятыве выкладчыцы беларускай мовы і літаратуры Раісы Анташук, дырэктара гімназіі Аляксандра Новікава і яго намесніка Наталлі Маслоўскай.***

...І зала поўнілася чаканнем. Дапытлівыя маладыя людзі ў сілу свайго шчаслівага ўзросту, якія ўсё бачаць нескажоным зрокам, з цікавасцю сустрэлі знакамітага паэта. Так, вершы Генадзя Бураўкіна яны чыталі, вучылі на памяць. Ёсць яны і ў падручніках, кнігах. Але ж які паэт сам?

Прыкладна так пачынаецца знаёмства: вочы ў вочы, першыя словы, а пасля, калі заладзіцца, пазнаюцца і душы.

Гэта была па-незвычайнаму цёплая сустрэча. Словы выбраннікі, воляю аўтара выстаўленыя ў рыфмаваныя радкі, стваралі кожны раз непаўторную песню душы — лірычную, самотную, гнеўную, трагічную або іранічную. Вершы жылі ўжо сваім незалежным жыццём і прымушалі ўрэшце рэшт біцца ва унісон адкрытыя мудраму слову і чыстаму пачуццю сэрцы юных. Генадзь Мікалаевіч слухаў вершы — як чыталі вучні не паказённаму, механічна завучанаму, а з душою. І прыемна было ад таго, што дзяўчынкі і хлопчыкі дакладна траплялі ў зададзеную танальнасць верша, улоўлівалі менавіта тую думку, той настрой, з якім паэт пісаў яго ("Я сам так не прачытаў бы", — пасля скажа ён).

Як важна, каб вобраз творцы, створаны па ўяўленні на аснове яго верша, супаў з рэальна пазнаным.

Зразумела, што з асаблівай цікавасцю гімназісты чакалі жывога слова паэта. Чакалі і адказаў на шматлікія пытанні — як дакладна сфармуляваныя, так і нават не выказаныя.

— Я не баюся ніякіх пытанняў, — сказаў Генадзь Мікалаевіч. — Адкажу на любыя з іх адкрыта. Толькі... не бойцеся маіх адказаў.

І трэба было бачыць гэтыя раскрытыя ў захапленні і павазе вочы дзяўчынак і хлопчыкаў, бо паэт казаў тое, што яны спадзяваліся пачуць — праўдзівае і мудрае слова. А гэта ж той камертон, па якому заўсёды ўстанаўліваецца радство душ.

Паэт чытаў свае вершы. У іх усё, а галоўнае — любоў, якая поўніць сэрца болем і пяшчотай да Беларусі, да людзей, заклік не пасаваць перад цяжкасцямі, спадзеў на сапраўднае чалавечае шчасце.

Як чытаў! Гімназістам і іх настаўнікам надоўга, а то і назаўсёды запамятаецца гэты высокі ўрок паэзіі, бязмежнай любові да сваёй роднай мовы, урок самапавагі, усведамлення свайго законнага і належнага месца ў людской супольнасці, які правёў Генадзь Бураўкін. Ад зневажальных, часам паўсядзённых цяжкасцей прозы жыцця паэт узняў іх дух на паэтычнае асэнсаванне рэчаіснасці. Бо здараецца, калі яркая ўспышка раптам азорыць цемру — усё становіцца бачным, праступае дарога і адступае страх.

Калі паэт чытаў сваю знакамітую "Малітву": "...Смутнаю парою нелюдзімай, // Калі ўсё наўкол ідзе на злом // Божа, // Захіні маю Радзіму // Мудрасцю, // Спакоем // І цяплом" — яе падхапілі чыстыя дзіцячыя галасы.

**Ларыса КОКТЫШ.**
**Фота Яўгена КОКТЫША.**

З блакнота даследчыка

# Свой шлях завяршыла ў Баранавічах

***З Баранавічамі звязаны многія фрагменты, эпізоды гісторыі рускай літаратуры. Часам, магчыма, і эпізоды, якія з'яўляюцца сведчаннямі, памяткамі і пра пісьменнікаў малавядомых. Але з гэтай нагоды варта ўзгадаць словы Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча: "А, між іншым, мы ўсе ... як тыя каменьчыкі ў мазаіцы. Выкінь адзін, і мазаіка распадзецца. У літаратуры адбываецца нешта падобнае. Яна складаецца з талентаў рознай велічыні. Адны пісьменнікі — больш таленавітыя, другія — менш. Але і без іх нельга мець поўнае ўражанне аб літаратурным працэсе, аб стане яго, аб перспектывах развіцця..."***

І Вольга Аляксандраўна Ляпко (дзявочае прозвішча — Скалоўская) — пісьменнік малавядомы. І ўсё ж такі хацелася б пра яе ўзгадаць. Тым болей, што і дачыненне да Беларусі яна мае самае непасрэднае. Хаця і нарадзілася ў Ізмаіле ў 1837 годзе, свой жыццёвы шлях завяршыла ў Баранавічах 14 лютага 1905 года.

Як патрапіла сюды? Мо следам за мужам-чыноўнікам Іванам Цімафеевічам Ляпко? Гэтая версія яшчэ патрабуе высвятлення.

А след яе — Вольгі Аляксандраўны — у літаратуры!.. Закончыўшы ў 1854 годзе Кіеўскі інстытут шляхетных дзяўчат, у хуткім часе выходзіць замуж. Іван Цімафеевіч Ляпко — чыноўнік, музыкант-аматар. І жывуць маладыя людзі ў Пецярбургу. Літаратурны дэбют паэтэсы і перакладчыцы адносіцца да 1866 года. Публікацыя сатырычнага верша "Похвала слезам (не Шуберта)" у часопісе "Будильник". Тут патрэбна заўважыць, што ў 1865 — 1877 гадах рэдактарам-выдаўцом гэтага досыць знакамітага выдання з'яўляўся графік-сатырык Сцяпанаў — дзядзька Вольгі Аляксандраўны. Галоўнай тэмай маладой паэтэсы становіцца праблема жаночай эмансіпацыі.

От сочетанья Свободы
с Прогрессом
Это дитя родилось.
Нежное, робкое
было созданье,
Именем — Женский Вопрос.
Мать умерла у ребенка,
Прогресс же,
Двигая массы идей,
Бросил малютку —
что будет, то будет!
Свет не без добрых людей.

Гэтыя радкі Вольга Ляпко надрукавала ў 1868 годзе ў часопісе "Отечественные записки". Тэма эмансіпацыі — і ў публікацыі артыкула маладой пісьменніцы "Да жаночага пытання" (у часопісе "Искра", 43 нумар за 1867 год).

Іван і Вольга заводзяць вялікую сям'ю. Заробку мужа-чыноўніка не заўсёды хапае. Пісьменніца бярэцца за любую літаратурную работу, становіцца сапраўднай падзёншчыцай. Піша казкі для дзяцей, вершаваныя апавяданні "з працягам", шмат перакладае. У 1867 годзе Вольга Аляксандраўна пераклала на рускую мову зборнік вершаў Тараса Шаўчэнкі "Кабзар" (асобнае выданне — Пецярбург, 1867 год). А следам і паэму Тараса Шаўчэнкі "Гайдамакі". Выданне яе запыніла цэнзура. Час — строгі суддзя. І пераклады Ляпко з паэзіі Шаўчэнкі — даўно забытыя. У сучасных выданнях "Кабзара" па-руску традыцыйна змяшчаюцца пераклады, зробленыя К.Сіманавым, В.Інбер, А.Безыменскім, Л.Вышаслаўскім, А.Сурковым, Л.Озеравым, В.Звягінцавай, А.Таркоўскім, У.Саянавым, М.Галодным, М.Зянкевічам, А.Твардоўскім... Безліч імёнаў! Безліч паэтычных, перакладніцкіх аўтарытэтаў!.. І хаця няма сярод іх Вольгі Ляпко, варта помніць, што яна была сярод пачынальнікаў адкрыцця Тараса Шаўчэнкі рускаму чытачу.

І ўсё ж, як патрапіла паэтэса, перакладчыца ў Баранавічы? Ці сачыла за мінскім перыядычным друкам? Ці ведала хаця б каго-небудзь з рускіх пісьменнікаў, хто ў той час працаваў на Беларусі? Ці дасылала свае творы Вольга Ляпко ў пецярбургскія выданні?.. Пакуль што — адны пытанні без адказаў. І, відаць, спакваля варта шукаць адказы на іх.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

По краінах і кантынентах

# Па чым пазнаюць бельгійца?

Паспрабуем прыадкрыць сакрэт: бельгійца пазнаюць не па пашпарту, не па знешнасці, а па спосабу вядзення гаспадаркі, па яго схільнасцях і прывычцы жыць у асаблівым навакольным асяроддзі.

Яго асяроддзе — гэта чыстыя, прыгожыя гарады з брукаванымі маставымі, якія штодзень мыюць вадой з мыльным растворам, гэта дамы з вежавымі гадзіннікамі, флюгерамі ў выглядзе пеўняў ці параснікаў, гэта царкоўныя званніцы з карыйёнамі (карыйён — набор невялікіх настроеных званоў, на якіх выконваецца пэўная мелодыя). А бельгійскія гарады — гэта яшчэ і дамы з аканніцамі, якія па вечарах наглуха зачыняюцца, а на аконных вітрынах магазінаў апускаюцца металічныя шторы, ва ўсіх кватэрах шчыльна зацягваюцца занавескі. Такім чынам кожны дом, кожная кватэра адасабляюцца ад усяго свету і ператвараюцца ў маленькія крэпасці. У іх ідзе сваё, нікому не бачнае звонку, жыццё, у якім утульна і прыемна.

Бельгійцы па сваім характары — народ авантурны ў рамантычным сэнсе гэтага слова. У першую чаргу гэта адносіцца да маладых мужчын. Як толькі яны ўлюбляюцца, гатовы зрабіць для сваіх каханых усё магчымае і немагчымае, нават пабудаваць казачны палац. Ледзь паспее малады чалавек пазнаёміцца з дзяўчынай, якую меціць у нявесты, як адразу ж пачынае спакушаць яе праектамі чароўнага палаца, малюе іх на паперы.

Захопленая перспектывай прыгожай казкі ў сямейным жыцці, дзяўчына без роздуму кідаецца на шыю свайму суджанаму. І неўзабаве бярэ справу ажыццяўлення праекта ў свае рукі. У Бельгіі неяк здаўна павялося, што будаўніцтва дома — справа жаночая.

Жанчына ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва. З уласцівай ёй віртуальнасцю бясконца відазмяняе план дома, раз-пораз уносіць карэктывы ў праект, дае ўказанні архітэктару, з якім заключылі кантракт.

Бедны архітэктар! Як толькі ён трапляе ў падначаленне гаспадыні ажыццяўляемага праекта, сам сабе ён ужо не належыць. Ім яна вольна маніпуліраваць, як ёй заманецца. Ён для яе проста будаўнічы матэрыял, у лепшым выпадку скарбніца ідэй і думак, з якіх яна на свой густ выбірае тыя, што найлепшым чынам спрацуюць на ўпрыгажэнне дома. З лёгкасцю незвычайнай яна дазваляе сабе называць яго "мой архітэктар" гэтак жа, як многія жанчыны прысвоілі сабе права гаварыць "мой доктар", "мой цырульнік".

І вось нарэшце палац узведзен, нашпігаван усялякім начыннем, абстаўлен мэбляй. Жыві ды радуйся! Але каб у доме сапраўды было камфортна і ўтульна, саграваў душу і радавала, бельгійцы з асаблівым трапятаннем афармляюць інтэр'ер гасцінай. Яны любяць стварыць такі антураж, які абуджае прыемныя асацыяцыі, дзе кожная рэч нагадвае аб нейкіх дарагіх сэрцу мінулых падзеях.

Найбольшы ж акцэнт у інтэр'еры бярэ на сябе шафа-сервант, ніжняя частка якой драўляная і выраблена ў стылі рэтра. Побач стаіць стол з кручанымі ножкамі. На сценах кандэлябры, мастацкія карціны. Дзверы шафы-серванта ўпрыгожаны мастацкімі роспісамі — сюжэтамі з жыцця Сярэднявечча, ідылічнымі карцінкамі на ўлонні прыроды, кірмашовымі сцэнкамі.

Варта адчыніць шафу — і перад вачыма адкрываецца ўсё багацце, якое капілася дзесяцігоддзямі і дасталася ў спадчыну ад дзядулі з бабуляй. Гэта розныя сувеніры, адмысловыя шкатулкі, распісныя бляшаныя куфэрачкі і кардонныя, нібы пазалочаныя, каробкі. А ў іх — фамільныя каштоўнасці: узнагароды (медалі і ордэны), сярэбраныя і залатыя ланцужкі, бранзалеты і медальёны, пярсцёнкі і іншая біжутэрыя і, як сведкі даўніны, фамільныя дакументы і ўсялякая ўсячына, якая нагадвае гаспадарам аб нейкіх вехах жыцця з іх радаслоўнай.

У бельгійцаў своеасаблівы падыход да прысваення назваў вуліцам, плошчам, паркам. Яны імкнуцца ўвекавечыць памяць не толькі славутых суайчыннікаў, але і выказаць прыхільнасць да любімых футбольных каманд або папулярных літаратурных герояў. І сапраўды, чаму б не аддаць належнае высакародству такіх персанажаў, як Дон Кіхот або Кот Леапольд. Гэта і ненадакучліва, і мілагучна, і выклікае ў душы прыемны рэзананс, які настройвае на дабрадушны лад, на ўсмешку. А ўсмешка, як вядома, гэта бальзам для душы.

Адна з вуліц у Бруселі называецца Дарога да чароўнага лесу. Незвычайна і прыгожа! Ці не так? А ўзнікла гэта назва даўно, калі яшчэ не было ні самой вуліцы, ні горада. Некалі тут праходзіла дарога ў вялікі прыгожы лес. З цягам часу паабапал яе выраслі дамы — так стварылася вуліца. Новую назву прыдумваць не сталі. Засталася даўнейшая. І ўсім зразумела — чаму.

Бельгійцы ўвогуле не любяць нічога пакідаць безыменным. Яны прыдумваюць назвы нават жылым дамам, вілам. У кожную назву імкнуцца ўнесці штосьці сваё, патаемна-інтрыгуючае: "Начная архідэя", "Манастыр Ціля", "Мары-Клёр", "Мая мара", "Сны збываюцца".

Вілы яны будуюць дзе-небудзь на ўскрайку лесу. Іх фасад здалёк кідаецца ў вочы сваім белым колерам. Экзатычна глядзіцца на такой віле саламяная страха, над якой горда азіраецца па баках певень-флюгер з кованага жалеза. Ля ўваходу ў двор — брама. Над ёй узвышаецца вулічны ліхтар. Па сваёй архітэктоніцы ён таксама нагадвае мінуўшчыну. Побач з брамай — два чырвоныя колы ад калёсаў. К дому вядзе брукаваная дарожка. На фасадзе дома замацаваны мудрагелісты вензель, спецыяльна выкаваны кавалём. У палісадніку растуць ёлкі і беластволыя бярозкі.

Калі ацаніць усю гэтую прыгажосць, становіцца зразумелым, чаму бельгійцы не любяць падоўгу падарожнічаць, чаму яны заўсёды адчуваюць цягу дамоў. Бо нідзе ў свеце большай утульнасці і такой прыгажосці, якую яны ўласнаручна стварылі, бадай, не сустрэць. Яны бязмерна любяць свой дом, свой горад, сваю краіну. Ніякія чужыя землі іх не вабяць. Ці не ў гэтым сакрэт рэальнага пачуцця радзімы, і не абстрактнага, а сапраўднага патрыятызму. Ім ёсць што любіць, што захоўваць, што абараняць.

Бельгія — прыдатны край, сапраўдны маленькі Эдэм, дзе прырода і цывілізацыя жывуць у поўнай гармоніі. Гэта краіна зялёных лугоў, што раскінуліся ўздоўж серабрыстых рэк, старажытных гарадоў і пасёлкаў з 35 мільёнамі жыхароў.

**Тэкст падрыхтаваў Пятрусь ЮДО.**

НА ЗДЫМКУ: старадаўні горад Гент — важны культурны і прамысловы цэнтр.



Краязнаўства

# Экскурсія на Жузлянку

***Расказваючы вучням пятага класа пра гарадзішчы ранняга жалезнага веку, я паведаміў ім, што такія старажытныя помнікі ёсць і ў Асіповіцкім раёне і нават на тэрыторыі нашага Вяззеўскага сельсавета. А адно з іх — Жузлянскае, што непадалёку ад вёскі Смык, дык наогул добра захавалася да нашага часу. Вучні зацікавіліся пачутым і пачалі мяне прасіць, каб я звадзіў іх да гэтага сведкі нашай сівой мінуўшчыны. Я згадзіўся. Вырашылі, што экскурсію зробім на веласіпедах.***

Раніцай у нядзелю школьнікі разам са сваім класным кіраўніком Галінай Кузьмінічнай Манько сустрэлі мяне каля Вяззеўскага Дома культуры. Тут мы наведалі музей калгаса "Авангард", дзе азнаёміліся са старажытным перыядам гісторыі нашай мясцовасці, і асабліва звярнулі ўвагу на звесткі аб Жузлянскім гарадзішчы.

Потым мы адправіліся ў дарогу на веласіпедах. Наш маршрут пралягаў уздоўж ракі Свіслач. Амаль на ўсім яго шляху нам сустракаліся маляўнічыя краявіды узбярэжжа. Іх казачная прыгажосць увесь час вабіла і клікала нас уперад, таму рухацца было лёгка і весела. Каля базы адпачынку "Бярозка" вучні нечакана збіліся ў кучу і з хваляваннем пачалі паказваць Галіне Кузьмінічне ў бок ракі. Я таксама спыніўся, зірнуў на Свіслач і застыў, як зачараваны. Туман пяшчотна хіліўся да вады. Здавалася, ён хоча ухутаць і сагрэць сабой раку ад ранішняй прахалоды, нібы малады хлопец сваю каханую на світанку. Пастарэўшы лес панура пазіраў на іх. Астравы, страціўшы сваё зялёнае адзенне, выглядалі гаротнымі і пакінутымі. Каля іх не чулася вясёлага клёкату качак і ўсплеску рыбы. Адтуль цягнула адзінотай і смуткам. Астравы ўжо не вабілі да сябе так, як летам, і здаваліся халоднымі і больш далёкімі.

Дабраўшыся да вёскі Смык, мы вырашылі звярнуцца да яе жыхароў, каб яны падказалі, як нам лепш дабрацца да Жузлянскага гарадзішча. Але ўсе, да каго мы звярталіся, нават не ведалі аб гэтым старажытным помніку, які знаходзіцца непадалёку ад іх вёскі. Урэшце адна жанчына параіла нам звярнуцца да старэйшага жыхара Мікалая Фаміча Налівайкі. Нам пашанцавала. Мікалай Фаміч якраз пілаваў дровы каля свайго дома. Ён з ахвотай падказаў нам, як хутчэй дабрацца да Жузлянкі, і пры гэтым успомніў, што там ў 70-х гадах вучоныя з Мінска вялі раскопкі. Галіна Кузьмінічна пацікавілася: "А чаму ваша вёска завецца Смык?" Мікалай Фаміч упэўнена адказаў, што назва паходзіць ад скрыпічнага інструмента "смычок". Справа ў тым, што наша паселішча ў мінулым славілася добрымі скрыпачамі. Адсюль і назва, — прадоўжыў ён.

Мы шчыра падзякавалі Мікалаю Фамічу і рушылі далей. Па дарозе я расказаў дзецям пра меркаванне вучоных наконт назвы вёскі Смык. У тапанімічным слоўніку пад рэдакцыяй В.А.Жучкевіча сцвярджаецца, што слова смык паходзіць ад назвы прымітыўнай сельскагаспадарчай прылады працы далёкага мінулага, а ў тапаніміі — ад мянушак і прозвішчаў. Раней жа гэта вёска называлася Смык-Слабада. У федэральныя часы, калі да назвы вёскі дадавалася слова Слабада, то гэта азначала, што жыхары такога паселішча карысталіся часовым вызваленнем ад выплаты падаткаў і іншых павіннасцей.

Праз паўгадзіны мы былі ўжо на гарадзішчы. Вучні былі ўражаны яго вышынёй і асабліва крутымі абрывістымі берагамі Жузлянкі і Свіслачы, якія акружаюць яго з паўднёвага і паўночнага захаду. З вялікай цікавасцю яны агледзелі насыпны вал паміж рэчкамі, які з усходу калісьці абараняў жыхароў паселішча. З унутранага боку вала бачны сляды раскопак. Я растлумачыў школьнікам, што гэта сляды навуковых даследаванняў вядомага на Беларусі археолага, прафесара Загарульскага і яго студэнтаў. Тут у 70-я гады яны праводзілі раскопкі, у час якіх былі знойдзены рэчы эпохі кіеўскай культуры III — V в.н.э. Звонку за валам добра бачны глыбокі роў, які ў мінулым злучаў Свіслач з Жузлянкай. Мы спусціліся ў роў і сфатаграфаваліся на фоне старажытнага помніка. Потым дзеці замералі вышыню гарадзішча ад узроўню вады да яго верхняй пляцоўкі. Атрымалася каля 12 метраў. Агледзеўшы старажытнае паселішча з усіх бакоў, мы вырашылі падсілкавацца, перш чым адправіцца дамоў. Размясціліся на верхняй пляцоўцы ў тым месцы, дзе трохвугольнік гарадзішча сваім вастрэйшым рогам упіраецца ў сутоку Жузлянкі і Свіслачы. Адсюль адкрываецца велічны від на водную панараму, якую ўтварае зліццё дзвюх рэк. Нашы продкі невыпадкова сяліліся там, дзе зліваюцца рэкі. Такія мясціны ў іх лічыліся святымі. І на самай справе ўсё тут уяўляла храм, створаны прыродай.

І мне захацелася расказаць сваім вучням пра цікавага чалавека, які калісьці жыў у Асіповічах. Яго імя доўгі час замоўчвалі ў навуковым свеце і баяліся ўспамінаць землякі. Звалі яго Аляксандр Гаўрылавіч Нямцоў. Працаваў ён у Асіповіцкай чыгуначнай школе. Як сведчаць яго былыя вучні, гэта быў усебакова адораны чалавек і таленавіты настаўнік. Але асабліва яго талент праявіўся як краязнаўца і этнографа-фалькларыста. Ён збіраў і зберагаў нашу спадчыну. За сваё кароткае жыццё ён напісаў больш 12 навуковых прац па фальклору і этнаграфіі Асіповіцкага раёна. У адной з гэтых работ ("Экскурсія вучняў Асіповіцкай сямігодкі" (1925 г.) А.Нямцоў першым з вучоных дасканала апісаў Жузлянскае гарадзішча. І, магчыма, сёння мы размясціліся якраз на тым месцы, дзе ў 1925 годзе Аляксандр Гаўрылавіч таксама сядзеў са сваімі вучнямі. На жаль, яго навуковую дзейнасць і жыццё дачасна абарваў сталінскі ГУЛАГ. Вельмі добра, што нарэшце імя А.Г.Нямцова па праву занесена ў апошняе выданне Беларускай энцыклапедыі.

Перш чым адправіцца дамоў, я яшчэ раз акінуў навакольную прыгажосць і ў думках пажадаў Жузлянскаму гарадзішчу шчаслівага плавання ў акіяне гістарычнага часу, каб ён заўсёды рассякаў дрымоту і забыццё тых, хто абыякава ставіцца да мінулага, каб падтрымліваў сувязь розных пакаленняў і напамінаў ім, дзе іх карані і адкуль яны родам.

* * *

Назаўтра раніцай я прачнуўся ў бадзёрым настроі і вельмі здзівіўся, што зусім не адчуваю болю ў мышцах ног, хоць і праехаў на веласіпедзе каля 30 км. Напэўна, праўда тых, хто сцвярджае, што культурна-гістарычныя помнікі захоўваюць энергію нашых продкаў, і яна жывіць тых, хто іх не забывае.

Праз некалькі дзён вучні прынеслі мне свае сачыненні, у якіх яны апісалі свае ўражанні аб убачаным на экскурсіі. Вучань 5-га класа Рэнат Герасімчук напісаў: "...Каб я быў кіраўніком, то забараніў бы на Жузлянскім гарадзішчы ўсялякія раскопкі, надаў бы яму першапачатковы выгляд і вадзіў бы туды экскурсіі не толькі жыхароў Асіповіцкага раёна, а ўсіх хто, прыязджае да нас у госці з суседніх і далёкіх краін".

Хочацца верыць, што мудрыя словы гэтага хлапчука пачуюць і дарослыя кіраўнікі. Нездарма ж ёсць народная прыказка: "Вуснамі дзіцяці гаворыць ісціна".

**Станіслаў ЛУКАШЭВІЧ,**
**настаўнік гісторыі Вяззеўскай сярэдняй школы Асіповіцкага раёна.**

Гаспадыні

# Бліны кожны любіць розныя...

### Бліны на дражджах

4-5 шклянак мукі, 2 чайныя лыжкі (4 грамы) сухіх дражджэй, 4 шклянкі малака, 5 яек.

Рашчыніць у 4 шклянках цёплага малака 2 — 2,5 шклянкі пшанічнай мукі з 2 лыжкамі дражджэй. Дабавіць крыху солі і ўсё старанна размяшаць. Паставіць на 3 гадзіны ў цёплае месца. Калі цеста падымецца, узбіць яго, падсыпаць муку, якая засталася, уліць жаўткі і ўзбітыя бялкі, асцярожна размяшаць даць падняцца і, не перамешваючы, выпякаць.

### Бліны на содзе

3 шклянкі мукі, 3 шклянкі вады, 2-3 яйкі, сталовая лыжка цукру па 0,4 чайнай лыжкі солі. соды, лімоннай кіслаты.

Яйка змяшаць з цёплай вадой, дабавіць соль, цукар і соду, усыпаць муку і размяшаць да знікнення камякоў. Лімонную кіслату развесці вадой, уліць у цеста, размяшаць і неадкладна выпякаць бліны.

### Маркоўныя бліны

2 шклянкі пшанічнай мукі. 5-6 невялікіх морквін, шклянку грэцкай мукі, 30 грамаў дражджэй, 3 яйкі, 3 шклянкі малака, сталовая лыжка цукру, соль на смак.

Развесці дрожджы цёплым малаком, дабавіць яйкі, цукар, соль і, памешваючы, крыху ўсыпаць пшанічнай і грэцкай мукі (можна размалоць у кавамолцы грэцкія крупы). Нацерці на тарцы 5-6 морквін сярэдняй велічыні і выкласці ў цеста. Усё размяшаць і выпякаць.

### Святочныя бліны

400 грамаў мукі, 0,5 літра малака, 15 грамаў дражджэй, 2 яйкі, чвэрць шклянкі смятаны або вяршкоў, соль.

Муку падзяліць на дзве роўныя часткі. З адной прыгатаваць апару разам з малаком і дражджамі, паставіць у цёплае месца, каб падышла. Затым дабавіць жаўткі і астатнюю муку, добра размяшаць. Уліць смятану або вяршкі. У апошнюю чаргу дабавіць узбітыя ў моцную пену бялкі. Цеста павінна падысці.

### Блінчыкі

2 шклянкі мукі, 5 яек, 3 станы малака, сталовая лыжка растопленага масла.

Жаўткі разбаўтаць, пасаліць, дабавіць малако, масла і паступова падсыпаць муку. Затым узбіць бялкі, уліць у цеста, размяшаць і выпякаць.

### Здобныя бліны

300 грамаў мукі, 50 грамаў масла, 4 яйкі, 3 шклянкі малака, 30 грамаў цукру, соль.

Жаўткі расцерці з цукрам, масла растапіць і змяшаць з мукой, паступова падліваючы малако. Масу паставіць на маленькі агонь і бесперапынна памешваць, пакуль крыху не загусцее. Да кіпення даводзіць нельга. Затым астудзіць, дабавіць пену ўзбітых бялкоў і — можна пячы.

### Блінны рулет

Спячы блін на вялікай патэльні. Змазаць растопленым маслам. Пакласці на яго слаямі начынку: слой рысу ці пшана з сечанымі яйкамі, слой тварагу. І так — некалькі разоў. Скруціць блін у рулет, пакласці ў форму і запячы. Пры падачы нарэзаць лустачкамі.

**Падрыхтавала Аліна ЯНКОЎСКАЯ.**

Спорт

## На прызы Прэзідэнта

***У Беларусі праходзяць першынствы абласцей і сталіцы сярод юных хакеістаў "Залатая шайба-2001" да рэспубліканскіх спаборніцтваў на прызы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у дзвюх узроставых групах — 1988 — 1990 і 1986— 1987 гадоў нараджэння.***

Першынство сталіцы з удзелам каманд малодшай групы з усіх 9 раёнаў сем дзён (19 — 25 лютага) праходзіла ў Лядовым палацы. Пераможцамі сталі школьнікі Партызанскага раёна. Прызавыя месцы занялі каманды Маскоўскага і Першамайскага раёнаў. Хакеісты Савецкага раёна прабіліся ў мацнейшую чацвёрку з папярэдніх гульняў, але засталіся за мяжой прызёраў.

А з 26 лютага спрэчку за права прадстаўляць сталіцу на рэспубліканскіх спаборніцтвах пачынаюць 15-гадовыя хакеісты таксама з каманд усіх раёнаў горада-героя. Іх турнір праводзіцца на лёдзе крытага катка ў парку імя М.Горкага.

## Поспех сямікласніка

***У мінскім Палацы воднага спорту чатыры дні праходзіў розыгрыш Кубка Беларусі па скачках у ваду.***

Галоўныя прызы з метровага і трохметровага трамплінаў у мужчын заваяваў Ігар Сямашка. У жанчын на гэтых снарадах пераможцамі сталі маладыя майстры Дар'я Раменская (трамплін 1 м) і Вольга Рыжова (трамплін 3 м). У скачках з вышкі вызначыліся юныя кандыдаты ў майстры Даша Палянская і Вадзім Каптур.

А найбольшы ўклад у камандную скарбонку юных унёс 13-гадовы мінскі сямікласнік Коля Дырда, які ў мужчынскай спрэчцы заваяваў узнагароды на ўсіх трох снарадах. Гэты ўклад дапамог першаму сталічнаму калектыву першынстваваць у спрэчцы за камандны кубак.

**Вільям АСТРЫНСКІ.**

Галоўны рэдактар Алег КУЛІЦКІ

ЗАСНАВАЛЬНІК — МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
Рэгістрацыйны нумар 370.
ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА "ДОМ ПРЭСЫ". 22 00 13, МІНСК, вул. Б.ХМЯЛЬНІЦКАГА, 10-а

НАШ АДРАС:
220034, МІНСК, ВУЛІЦА ЗАХАРАВА, 42.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 36-91-42; першага намесніка галоўнага рэдактара — 36-53-22; намесніка галоўнага рэдактара-адказнага сакратара — 36-40-63; аддзелаў: школ - 36-43-62, праблем выхавання - 36-43-71, 36-90-63; інфармацыі - 36-41-55; ВНУ і тэхнікумаў - 36-44-25; прафтэхадукацыі, пісьмаў і сацыяльных праблем - 36-44-25; культуры - 36-41-55.

Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі (нумар пашпарта, дату выдачы, кім выдадзены пашпарт), асноўнае месца работы, зваротны адрас, нясуць адказнасць за дакладнасць фактаў і іншай інфармацыі.

Пісьмы, рукапісы, фотаздымкі і малюнкі не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца

Аб'явы могуць друкавацца не толькі на дзяржаўнай, але і на замежных мовах.

Меркаванне аўтараў публікацый не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Адказны дзяжурны Святлана КІРСАНАВА.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", 220041, Мінск, праспект Ф.Скарыны, 79.
Аб'ём — два друкаваныя аркушы. Спосаб друку — афсетны. Фармат А2. Індэкс 63867.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 Замова №1245
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Падпісана да друку 28.2.2001 г. у 18.10
Наклад 30.000 паасобнікаў.